БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

9 чэрвеня 1994 г.
Чацвер
№ 62(13779)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года



Малюе Віктар ДУБОВІК

*Студэнтка з Гомеля Алена Рудкоўская стала першай у гісторыі беларускага жаночага плавання алімпійскай чэмпіёнкай, паказаўшы вынікі, якіх у рэспубліцы ніхто ніколі не дасягаў.*

*Упершыню Алена здзівіла ўсіх у 1991 годзе, выйграўшы на чэмпіянаце Еўропы адразу тры дыстанцыі – сто і двесце метраў брасам, акрамя таго, заваявала золата ў эстафеце. Але галоўны яе старт, вядома, — Алімпіяда ў Барселоне, дзе Алена ўдастоілася золата на дыстанцыі 100 метраў брасам і бронзавага медаля ў камбінаванай эстафеце 4 па 100 метраў. Затым былі Універсіяда ў Буфала і чэмпіянат Еўропы ў Шэфілдзе, адкуль яна таксама вярнулася з медалямі. Цяпер праслаўленая беларуская плыўчыха старанна рыхтуецца да чэмпіянату свету ў Рыме, які адбудзецца ў верасні.*

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Пастанова Савета Міністраў

*Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб змяншэнні памеру гандлёвай надбаўкі да аптова-адпускных цэн на асобныя харчовыя тавары".*

У ёй прадугледжваецца зменшыць з 9 чэрвеня 1994 г. для прадпрыемстваў усіх форм уласнасці (акрамя прадпрыемстваў спажывецкай кааперацыі) пры рэалізацыі па свабодных цэнах хлеба і хлебабулачных вырабаў, ялавічыны, свініны, субпрадуктаў, вараных каўбасных вырабаў і масла гандлёвую надбаўку, уключаючы надбаўку аптовага гандлёвага звяна і расходы за карыстанне банкаўскім крэдытам, да аптова-адпускных цэн прадпрыемстваў-вытворцаў да 10 працэнтаў.

### Ракіроўка ў стане дэмакратаў

*Як стала вядома, днямі прайшлі перагаворы паміж лідэрам БНФ і старшынёй Партыі народнай згоды, у выніку якіх Генадзь Карпенка даў згоду ўвайсці ў склад "каманды" Зянона Пазьняка.*

Было таксама пацверджана, што ранейшыя пагадненні паміж Пазьняком і Карпенкам застаюцца ў сіле. Гэта азначае, што ў ценявым кабінеце міністраў БНФ мэр Маладзечна па-ранейшаму застаецца адным з найбольш магчымых кандыдатаў на пасаду прэм'ера. "У той жа час мы не бачым ніякіх рэальных магчымасцей, каб ісці на выбары адзіным блокам са Станіславам Шушкевічам і нават не прылічваем яго да дэмакратаў", — заявіў на сустрэчы з журналістамі кіраўнік ініцыятыўнай групы Пазьняка Сяргей Навумчык.

БЕЛІНФАРМ.

### Лекі ёсць, а лячыцца няма чым

*На аптэчных складах Віцебшчыны назапасілася вялікая колькасць лекаў. Іх кошт перавышае 28 мільярдаў рублёў.*

Тым не менш, не толькі хатнія хворыя, але і стацыянарныя медыцынскія ўстановы пакутуюць ад вострага дэфіцыту самых неабходных прэпаратаў. У час вясенняй эпідэміі грыпу ў бальніцах вобласці, напрыклад, не хапала самых элементарных антыбіётыкаў. Прычына такога становішча, як растлумачылі ў абласным упраўленні аховы здароўя, — неплацежаздольнасць медыцынскіх устаноў. Дарагоўля лекаў, што сёння ў асноўным пастаўляюць камерцыйныя фірмы, не дае магчымасці закупляць іх нават у мінімальным аб'ёме. Сродкі ж, хоць і выдзяляюцца з абласнога бюджэту, вельмі нязначныя. Прычым, выдзяленне грошай для патрэб аховы здароўя носіць эпізадычны характар, бо сам бюджэт вобласці — "з дзіравымі кішэнямі".

Яўгенія ВІЦЬБА.

### "Шлях да ўзаемнасці"

*Такі дэвіз выбралі навукоўцы Беларусі і Польшчы для сваёй сустрэчы, якая адбылася 6 чэрвеня ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.*

Размова была прысвечана пошукам новых магчымасцей у супрацоўніцтве паміж суседнімі дзяржавамі. Удзел у ёй прынялі такія вядомыя асобы, як пісьменнік і краязнаўца Адам Мальдзіс, прафесар Вітаўт Кіпель, які, дарэчы, атрымаў не так даўно ганаровую дактарантуру Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, старшыня Беларуска-Польскага таварыства Аляксандр Баршчэўскі, пасол Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулэк. Арганізавалі навуковую канферэнцыю Гродзенскі аблвыканкам, Саюз палякаў Беларусі і Беларускае культурна-грамадскае таварыства Польшчы. Завяршылася сустрэча фестывалем беларускай і польскай песні, які адбыўся ў абласным драмтэатры.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Вайны рубцы яшчэ не зараслі...

*Гэта назва аднаго з раздзелаў выставы, якая нядаўна адкрылася ў Бешанковіцкай раённай бібліятэцы. Кніжная выстава прысвечана пяцідзесяцігоддзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

Тры раздзелы выставы знаёмяць чытача з пачаткам вайны, з разгортваннем на Беларусі партызанскага руху, прадстаўляюць багата мемуарнай літаратуры, ілюстраваных альбомаў, матэрыялаў пра пошукавую работу.

Уладзімір МІХНО.

### Сямейны дуэт

*Вядомы беларускі спявак А.Саладуха падрыхтаваў чарговы падарунак сваім паклоннікам. 12 чэрвеня, у заключны дзень II нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна–94", Аляксандр дае двухгадзінны сольны канцэрт на мясцовым стадыёне.*

Яшчэ адзін сюрпрыз падрыхтавала яго жонка Наташа — бас-гітарыстка з групы "Карусель-2". На канцэрце прагучыць напісаная ёй кампазіцыя.

Андрэй ВАСІЛЬЕЎ.

### Дамаседы міжволі

*Калі верыць звесткам сацыялагічнага апытання, больш за палавіну жыхароў Брэста вымушаны ці добраахвотна будуць у час летніх водпускаў дамаседамі.*

Толькі нямногія (каля 2 працэнтаў гараджан) маюць намер правесці адпачынак за мяжой, а яшчэ каля 11,5 працэнта — у краінах СНД. Ну, а пераважнай большасці брастаўчан у асноўным з-за мізэрных фінансавых магчымасцей "свеціць" загарадная дача ці звычайныя вылазкі на прыроду.

БЕЛІНФАРМ.

### Некалькі гадзін радасці

*У Беларускім аграрным тэхнічным універсітэце стала добрай традыцыяй праводзіць штогод універсіяды. Сёлета такая універсіяда прысвячалася 50-годдзю вызвалення Беларусі і 40-годдзю ўтварэння ўніверсітэта.*

Свята пачалося на стадыёне студэнцкага гарадка. Яго адкрыў рэктар універсітэта, член-карэспандэнт акадэміі аграрных навук прафесар Л.Герасімовіч. Ён шчыра павіншаваў усіх прысутных. Пераможцам рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтваў па розных відах спорту ўручыў узнагароды, каштоўныя падарункі. Пасля афіцыйнай часткі адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці.

А потым прайшлі спаборніцтвы па 17 відах спорту. Гэтыя некалькі гадзін спрытнасці і маладосці падарылі радасць не толькі студэнтам, выкладчыкам, але і жыхарам наваколля.

А.ПАТАПОВІЧ,
дэкан факультэта гуманітарызацыі Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта.

**Курсы валют на 8 чэрвеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 21500 | 22150 | 13156 | 13500 |
| "Прыор" | 21400 | 21800 | 12800 | 13040 |
| "Пошук" | 21450 | 22200 | 13100 | 13500 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ПАДЗЕІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

## Сіндром Жырыноўскага,
## або Некаторыя развагі пад час прэзідэнцкай кампаніі

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

Гісторыя паўтараецца, яе ўлўнае манументальнае палатно ўтворана з бясконцых віткоў-паўтораў. З'явы і падзеі, быццам адышоўшыя ў мінуўшчыну, вяртаюцца з пазачасовай рэтраспектывы, як паштовыя галубы на месца ўзлёту. Здаецца, палунаўшы колькі гадоў у чорных нябёсах забыцця, ляціць да беларусаў, нібыта птушка Гамаюн, камуністычная ідэя ў новым ружовым апярэнні. Многія з надзеяй успрымаюць яе цяпер, а праз тыдзень-другі (гэтую згадку пра будучыню няма сэнсу аспрэчваць) лідэр камуністаў філосаф з базавай адукацыяй Васіль Новікаў пачне хутка набіраць ачкі ў прэзідэнцкай тэлеімпрэзе, а праграма неасацыялістычнага адраджэння стане, бадай, адной з самых папулярных. Для таго ёсць некалькі прычын, скажам толькі пра самыя відавочныя.

Аднак спачатку трэба адзначыць, што ў ходзе барацьбы не выключана магчымасць стварэння блоку камуністаў з Кебічам, Дубко і Лукашэнкам, аб чым на прэс-канферэнцыі кіраўніцтва ПКБ гаварыў сакратар ЦК партыі Сяргей Калякін. Калі размовы і чуткі аб магчымых блоках будуць мусіравацца і надалей, а то і пяройдуць з плоскасці прагнозаў у рэальнасць, намаганні камуністычных цыцэронаў, золата-чырвань іх прамоў з адценнем абражанай годнасці могуць у значнай ступені пацярпець (па прычыне страты чысціні вобраза). Бо трэба ясна разумець, што ў варунках ледзь не татальнага катастрафізму, якім ахоплена народная свядомасць, трыумфальны поспех можа мець толькі высокая рыторыка і чыстая ідэя адраджэння, нават у казачнай аблямоўцы.

Зноў і зноў паўтараецца лозунг "Вярнуць народу тое, што ў яго аднялі!" З прарывам пэўнай інфармацыйнай блакады на радыё і БТ погляды Новікава ўспрыме рэспубліканская аўдыторыя, сярод якой зашмат рэспандэнтаў, паставіўшых ПКБ у першы радок неафіцыйнай табліцы папулярнасці пад час сацыялагічных маніторынгаў. Пакуль жа і публікацыі робяць сваю справу і нядрэнна робяць, не ўсе ж пасля адмены камуністычнай забароны схіліліся над запаведнымі старонкамі Борхеса і Джойса, чытаюць і перыёдыку, куды, мякка кажучы, з неахвотай пускаюць апазіцыю некамуністычную. Казка-анахранізм (мы не маем мэты ў дэталях аналізаваць сёння праграмныя ўстаноўкі ПКБ, але нельга не сказаць аб іх прывабнасці), у якую ўплецена "чырвоная ніць збавення", сыходзіць з друкаваных аркушаў. У ёй ёсць усё: і ўспамін аб мінулым, і згадка пра будучыню са светлым завяршэннем цяжкага шляху. Ёсць канкрэтыка, наўрад ці магчымая ў рэальнасці, аднак пры адсутнасці лагічнай праграмы дзеянняў цяперашніх і ўчарашніх "рэфарматараў" яна выглядае даволі зграбна, як "рэч у сабе". Разлік зразумелы – дайце згоду, будзе і вынік. Чаму "ніць збавення"? В.Новікаў тлумачыць:збавенне не за сябе і шэрагавых (ці адносна шэрагавых) камуністаў, а за элітны эшалон, які і скіраваў краіну дый партыю, адным словам, увесь народ пад адхон, у бездань галечы і вартага жалю існавання. На ўсё гэта накладваецца вопыт усходнееўрапейскіх краін, якія перажываюць сацыялістычны рэванш.

Пакуль у друку працягвалі рэгулярна з'яўляцца прагнозы наконт магчымых і ледзь ужо не створаных блокаў блізкіх па канчатковых мэтах палітычных плыняў, адбылася падзея, якой эксперты не ўдзялілі належнай увагі. З веснавога прэзідэнцкага экспрэса сышоў Генадзь Карпенка. У апошні майскі дзень Цэнтрвыбаркам прыняў да ведама яго заяву і ў лепшых традыцыях саўпартыйнай дысцыпліны просьбу Генадзя Дзмітрыевіча аб зняцці сваёй кандыдатуры задаволіў. Магічная сямёрка ператварылася ў шасцёрку, за якой з біблейскіх часоў цягнецца змрочны шлейф нядобрай славы. Не сакрэт, фігура інтэлігентнага цэнтрыста раздражняла і насцярожвала ўсіх удзельнікаў барацьбы. Ясна было і тое, што яго паспрабуюць не прапусціць у рашаючы тур. Меркавалася, гэта зробяць высокапасадныя чыноўнікі – навошта ім лішні прэтэндэнт у цэнтры. Аднак сыход Карпенкі ў цень стаў сапраўднай драмай дэмакратычнага руху. Хто цяпер паверыць у чысціню намераў дэмакратаў, учыніўшых сутаргавую мітусню вакол спіса з уласнымі дэпутацкімі подпісамі. Карпенка (што, магчыма, для яго і нядрэнны варыянт) пайшоў прыгожа.Адмоўнікі па-пілатаўску мыюць рукі перад народам. Але справа зроблена. Такое ракавое ахвярапрынашэнне не будзе доўга адгукацца. Электарат Карпенкі як фігуры канструктыўна-апазіцыйнай яшчэ не паспеў вызначыцца ў памерах, аднак наўрад ці ён адыдзе да тых, хто гэты адыход планаваў. У чэрвеньскі выбар увайшоў элемент непрадказальнасці, і зусім верагодна, што камуністы, не ўцягнутыя ў брудныя гульні, якраз і атрымаюць дадатковыя галасы. Падкрэслім, галоўнае нават не ў тых галасах, а ў раптоўным аслабленні і дагэтуль не надта моцнай пазіцыі дэмакратаў (тэрмін ужываем умоўна) – асноўных апанентаў камуністаў.

Зрэшты, крыху раней ва ўмоўных дэмакратаў быў ідэальны варыянт-шанц: Пазьняк заклікае аддаць свае галасы Шушкевічу. Меркаванне з разраду фантастычных, аднак пры падобным развіцці падзей Шушкевіч імгненна набіраў палітычную вагу і станавіўся прэтэндэнтам пад нумарам першым-другім. Цяпер (нагадаем: ініцыятарам адозвы подпісаў у падтрымку Карпенкі стала БСДГ дый іншыя прыхільнікі Шушкевіча) такое немагчыма. І зноў сітуацыя "гуляе" на Новікава.

Не ўсё спакойна ў Дацкім каралеўстве. За каго галасаваць – вось у чым пытанне. Пакуль прэм'ер угледваецца ў рубінавую цемру над старажытнымі крамлёўскімі вежамі, з усіх бакоў гучаць заявы аб немагчымасці аб'яднання расійска-беларускіх фінансаў без канстытуцыйных паправак. Складваецца ўражанне, што Масква ўсё ж вырашыла пачакаць да выбараў, што само па сабе зменіць іх вынікі. Узводзячы сваю вавілонскую вежу да нябёсаў славы, перасварыліся дэмакраты. Тандэм Пазьняк–Шушкевіч наўрад ці рэальны, абодва прэтэндэнты рушаць далей паасобку. Між тым, пры небагацці выбару "стромкая, гатычная" (паводле Васіля Быкава) фігура Пазьняка яшчэ і вельмі ўразлівая і падступная. Падчас радыё- і тэледэбатаў яго дастануць і злева, і з цэнтра. Няма экстравагантнага Аляксандра Прушынскага, затое ёсць Аляксандр Лукашэнка з прэтэнзіяй на лаўры беларускага Руцкога. Да яго яшчэ трэба будзе ўважліва прыслухоўвацца ў бліжэйшыя дні. Вось і атрымліваецца, што дакладнасць і прастата (хай і з налётам містыфікацыі) ідэй Новікава можа стаць тым чэрвеньскім магнітам, які прыцягне ўвагу і адпаведна галасы не толькі пенсіянераў і беспрацоўных, а і многіх простых людзей у паўжабрацкім стане.

Хаця нельга не ўлічыць і такі зыход: камуністы могуць страціць усе перадвыбарныя набыткі, калі апынуцца дрэннымі стратэгамі, а іх лідэр – шэрым прамоўцам. Многае вырашыцца ў электронных промнях экранаў, будзе залежаць ад магнетызму пунсовага атраманту на старонках праграмных абяцанняў.

**ВАЗЬМІЦЕ НА ЗАМЕТКУ**

### Кандыдаты ў прэзідэнты – на тэлебачанні і радыё

*ТЭЛЕБАЧАННЕ:*

7 чэрвеня — А.Лукашэнка (19.00—19.40); В.Кебіч (відэаматэрыял) (20.00—20.40).

8 чэрвеня — А.Дубко (19.00—19.40); З.Пазьняк (20.00—20.40).

9 чэрвеня — С.Шушкевіч (19.00—19.40); В.Новікаў (20.00—20.40).

11 чэрвеня — В.Новікаў (20.00—20.40).

12 чэрвеня — А.Дубко (відэафільм) (13.00—13.30); А.Лукашэнка (13.45—14.15).

13 чэрвеня — С.Шушкевіч (19.00—19.30); В.Кебіч (20.00—20.40).

14 чэрвеня — А.Лукашэнка (19.00—19.40); З.Пазьняк (20.00—20.40).

15 чэрвеня — В.Новікаў (19.00—19.40); С.Шушкевіч (20.00—20.40).

16 чэрвеня — А.Дубко (19.00—19.40); В.Кебіч (20.00—20.40).

18 чэрвеня — С.Шушкевіч (19.00—19.40); А.Дубко (20.00—20.40).

19 чэрвеня — В.Новікаў (14.30—15.00).

20 чэрвеня — А.Лукашэнка (19.00—19.40); З.Пазьняк (20.00—20.40).

21 чэрвеня — З.Пазьняк (19.00—19.40); В.Кебіч (20.00—20.40).

*РАДЫЁ:*

9 чэрвеня — В.Новікаў (7.30—8.00).

11 чэрвеня — В.Новікаў (8.00—8.30); С.Шушкевіч (13.00—13.30).

12 чэрвеня — А.Дубко (7.00—7.30).

13 чэрвеня — А.Лукашэнка (7.30—8.00).

14 чэрвеня — З.Пазьняк (7.10—7.55).

15 чэрвеня — В.Кебіч (7.00—7.40); В.Новікаў (13.15—14.00).

16 чэрвеня — А.Дубко (7.00—7.30); З.Пазьняк (7.35—8.05).

17 чэрвеня — З.Пазьняк (7.10—7.50).

18 чэрвеня — А.Дубко (7.00—7.50); С.Шушкевіч (13.00—13.30).

19 чэрвеня — З.Пазьняк (13.00—13.35).

20 чэрвеня — В.Новікаў (7.30—8.15); А.Лукашэнка (12.30—13.00); В.Кебіч (13.05—13.35).

21 чэрвеня — С.Шушкевіч (7.30—8.15); А.Лукашэнка (12.30—13.00); В.Кебіч (13.05—13.45).

*P.S. У графіку выступленняў кандыдатаў магчымы змены.*

(Ул.інф.)



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"

### ПРАПАНОВА АБ ПЕРАМІР'І

*Спецыяльны прадстаўнік ААН у Босніі прапанаваў перамір'е ваюючым бакам былой Югаславіі на 4 месяцы з магчымасцю яго працягу.*

Прапанова заклікае сілы праціўнікаў адступіць на 2 кіламетры ад лініі фронту. Потым паміж ваюючымі арміямі будуць размешчаны сілы ААН. У аўторак, выступаючы перад французскай Нацыянальнай асамблеяй, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан падтрымаў план Акашы.

### ЗША НЕ ЗАПАЛОХАЕШ

*Дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер заявіў, што пагрозы вайны з боку Паўночнай Карэі не спалохаюць Злучаныя Штаты.*

Выступаючы ў Парыжы, ён сказаў: "Мы ўжо чулі такія ваяўнічыя прапановы ў мінулым і жадаем прытрымлівацца стабільнага курса адносна санкцый". У аўторак Паўночная Карэя зноў адхіліла патрабаванні ААН на пасяджэнні МАГАТЭ ў Вене аб доступе міжнародных інспектараў на склады ядзерных адкідаў.

### НА "ДЖАЙЕНТС" УСЁ СПАКОЙНА

*На стадыёне "Джайентс" у Нью-Джэрсі рабочыя заняты падрыхтоўкай да гульняў чэмпіянату свету па футболу 1994 года.*

Зрабіць стадыён на 77.000 месцаў бяспечным — нялёгкая задача. Але дырэктар стадыёна Майкл Роу гаворыць, што персанал яе вырашыць, і дадае, што гарантаваць бяспеку гледачоў будзе нескладана. Плануецца павялічыць колькасць ахоўнікаў у раёне стадыёна ў 5—10 разоў у параўнанні са звычайнымі матчамі ўнутранага футбольнага першынства.

### ФАШЫСТЫ СУПРАЦЬ ТУРЫЗМУ

*Паводле слоў берлінскага міністра па справах моладзі, замежныя групы маладых людзей адмяняюць свае паездкі ў Германію з-за боязі нападзення расістаў.*

Нядаўна на шведскую маладзёжную зборную па футболу напала група нямецкіх неафашыстаў.

### ЛЯСНЫЯ ПАЖАРЫ

*На астравах Іспаніі бушуюць лясныя пажары, "з'ядаючы" за тыдзень столькі лесу, колькі было знішчана за ўвесь мінулы год.*

Згарэла ўжо каля 1535 га сасновага лесу. Прадстаўнікі ўлад заяўляюць, што гэта самыя вялікія пажары на астравах Міжземнага мора за апошнія некалькі год.

### МОЛАДЗЬ ПЕРАД КАПІТОЛІЕМ

*Амаль дзве тысячы маладых людзей з 30 краін сабраліся на лужку перад Капітоліем для ўдзелу ў маладзёжным форуме ў Вашынгтоне.*

Заснаваны праграмай ААН па навакольнаму асяроддзю форум дае моладзі магчымасць абмяняцца ідэямі і знайсці рашэнне праблем навакольнага асяроддзя.

### У ПАЛЕСЦІНЦАЎ – СВАЁ ТЭЛЕБАЧАННЕ

*Упершыню выйшла ў эфір палесцінскае тэлебачанне.*

Яго кіраўнік заявіў, што перадачы хутка ахопяць Заходні бераг ракі Іардан і сектар Газа. Два мільёны палесцінцаў, якія пражываюць у гэтых раёнах, глядзяць тэлепраграмы суседніх арабскіх краін. Ізраільскае тэлебачанне таксама перадае шмат праграм на арабскай мове.

(Працяг на 3-й стар.).

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### ПРАМОВА КЛІНТАНА

***Амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан выступіў з прамовай перад французскім урадам.***

Ён закрануў шэраг праблем: вайну ў Босніі, пытанні фінансавай дапамогі афрыканскім дзяржавам, дзе ідуць баявыя дзеянні. Клінтан падкрэсліў неабходнасць правядзення рэформ у Еўропе, адкрыцця рынкаў, куды можна было б экспартаваць тавары.

### ЗЕМЛЯТРУС У КАЛУМБІІ

***У Калумбіі адбыўся моцны землятрус. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, загінулі 64 чалавекі, прапала без вестак 500 чалавек.***

У выніку моцных штуршкоў 2 вёскі практычна сцёрты з карты зямлі. Каля 2000 жыхароў засталіся без даху над галавой. У агульнай складанасці ў раёне катастрофы жыве каля 11.000 жыхароў. У Калумбію прыбыў верталёт для правядзення выратавальных работ.

### ДЗЕЦІ З РУАНДЫ

***Каля 100 дзяцей былі эвакуіраваны з Руанды ў Італію і Францыю.***

Па ініцыятыве італьянскіх улад, а таксама Чырвонага Крыжа дзеці былі адпраўлены на лячэнне.

### БЕРЛУСКОНІ СУПРАЦЬ ТЭЛЕБАЧАННЯ

***Новы кіраўнік урада Італіі Берлусконі выступіў супраць італьянскага тэлебачання.***

Ён папракнуў дзяржаўнае тэлебачанне ў тым, што яно заўсёды прытрымлівалася праўрадавай пазіцыі ў адрозненне ад прыватных інфармацыйных станцый.

### НА ЗАМЕТКУ ШУКАЛЬНІКАМ СКАРБАЎ

***Буйны скарб сярэбраных манет элінскага перыяду знойдзены ў Ізраілі ля пабярэжжа Хайфы. Яго вага 41 кілаграм.***

Гэтыя манеты, вядомыя пад назвай тэтрадрахмы, былі адчаканены ў Пафосе ў 145 г. да н.э. у час праўлення імператара Пталамея VI Філаметара.

### ДАМАЎЛЯЮЦЦА І КАМУНІСТЫ З ДЭМАКРАТАМІ...

***У Венгрыі распачаліся перамовы паміж сацыялістычнай партыяй і Саюзам свабодных дэмакратаў.***

Яны праходзяць у Будапешце. Лідэры сацыялістычнай партыі (былой камуністычнай) і дэмакраты, магчыма, знойдуць агульную мову, таму што ў гэтым выпадку абедзве плыні атрымаюць яшчэ большую падтрымку насельніцтва.

### БОЙКА Ў ПАРЛАМЕНЦЕ

***У парламенце Тайваня рознагалоссі дайшлі да такой ступені, што адна з удзельніц пасяджэння, якая прадстаўляла ўрадавую партыю, пабіла сваю калегу з апазіцыі.***

Бойка распачалася прама за трыбунай, у ёй прынялі ўдзел яшчэ некалькі жанчын. Вынік сумны: яны выключаны з парламента.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# Утаймаванне... Шэкспіра

□ Майя ШЭНДРЫК, "ЧЗ"

*Гастролі для тэатра — гэта заўсёды падзея. Гастролі ў сталіцу для правінцыяльнага тэатра — гэта падзея ўдвая.*

Не ведаю, кім пісаны гэтыя законы, але, выязджаючы на гастролі ў сталічны горад, усе правінцыяльныя тэатры на сваёй гастрольнай афішы аддаюць перавагу "славутым" імёнам-драматургам — Шэкспір, Лопэ дэ Вега, Чэхаў, О'Ніл. Бадай, і пералічыш усе тэатральныя трупы, якія хаця б раз у жыцці не звярнуліся да творчасці сусветных "мэтраў". Не сталі ў гэтым сэнсе выключэннем і апошнія гастролі ў Мінску Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча з Бабруйска. На суд сталічнага гледача бабруйчане прывезлі "Утаймаванне свавольніцы" Шэкспіра і "Каханне пад вязамі" О'Ніла.

Адразу адзначу, напэўна, самую непрыемную для артыстаў дэталь гастроляў — напаўпустая зала Мінскага тэатра юнага гледача. Ні зручны час паказу спектакляў, ні чыста сімвалічная цана білетаў, ні нават Шэкспір не змаглі, у рэшце рэшт, запоўніць глядзельную залу.

Шчыра кажучы, Мінск — горад не вельмі "памешаны" на тэатры, а таму гастролі артыстаў з правінцыі заўсёды паспяхова вырашалі праблему "лішняга білеціка". Тым простым спосабам, што гэтых самых "лішніх білецікаў" звычайна аказвалася значна больш, чым тых другіх, якія аказваліся "ахопленымі".

Але вернемся да Магілёўскага тэатра. Зразумела, жаданне тэатра з правінцыі "ўразіць" збалаваную сталічную публіку, аднак... не заўсёды жаданне і магчымасці супадаюць. На жаль, наяўнасць імені Шэкспіра на афішы яшчэ не гарантуе высокага выканаўчага ўзроўню на сцэне. "Утаймаванне свавольніцы" Шэкспіра ставілася шмат разоў на самых розных сцэнах самых розных гарадоў, і калі рэжысёр уключае п'есу ў свой пастановачны план, трэба думаць, ім знойдзены нейкі новы варыянт яе рашэння, не падобны на ўсе астатнія. Калі ж ён вырашыў звярнуцца да гэтай камедыі Шэкспіра дзеля самога імя Шэкспіра, асноўнай яго задачай становіцца, як кажуць "не нашкодзь". Не магу сказаць, што спектакль бабруйчан вызначаўся цікавым рэжысёрскім рашэннем і "дасканалай" тэхнікай. Усе так званыя рэжысёрскія прыёмы маюць "доўгую бараду". Не вельмі цікавае афармленне, прапанаванае мастаком, мізансцэнічна выкарыстоўваецца вельмі бедна, без фантазіі, а якая абавязкова патрэбна драматургіі Шэкспіра.

Уважліва гляджу ў праграму спектакля і вачам сваім не веру. Пастаноўшчык пластыкі, яго асістэнт, нават балетмайстар — усе яны "задзейнічаны" ў спектаклі, у якім бляклаcць мізансцэнічнай геаграфіі арганічна "дапаўняе" невыразнасць пластыкі галоўных герояў.

Не ведаю, хто і калі ўпершыню прыйшоў да гэтай люмпенскай высновы — чым гучней, тым больш смешна. Стваральнікі спектакля "Утаймаванне свавольніцы", як ні дзіўна, стараліся менавіта крыкам выклікаць у гледача смех, зусім забыўшыся пра тое, што дыялогі ў Шэкспіра настолькі дасціпныя, што выканаўцам застаецца толькі дакладна данесці іх да гледача, нават не нагружваючы іх "уласнымі знаходкамі". Дастаткова прыгадаць цудоўную экранізацыю яшчэ адной камедыі Вялікага Вільяма — "Шмат шуму з нічога", — якая ў нечым падобна на "Утаймаванне..." Розніца толькі ў тым, што ў першай героі "ўтаймоўваюць" адзін аднаго, а ў другой "утаймаванне" адбываецца з аднаго боку. Слоўныя дуэлі ў гэтым фільме пабудаваны без перабольшвання, цудоўна, у поўнай адпаведнасці жанру. На жаль, спектакль з гэтай мэтай не справіўся. Безумоўна, трэба аддаць належнае акцёрам, якія не бачаць сябе збоку, і выконваюць сваё "сола" згодна з пастаўленай рэжысёрам задачай. Але сола гэтае было амаль увесь час фальшывым. І калі параўнаць спектакль з аркестрам, то можна сказаць, што апошні быў проста пазбаўлены вопытнага дырыжора.

Магчыма, і не трэба было бабруйчанам "сатрасаць" сталічнага жыхара Шэкспірам, а перагледзець свой рэпертуар і, магчыма, знайсці больш прафесійны ва ўсіх адносінах спектакль. Праўда, трэба сказаць пра тое (і гэта немалаважна), што прывезены ў Мінск рэпертуар падрыхтаваны "галоўнымі" ў прамым сэнсе гэтага слова людзьмі ў тэатры — яго галоўным рэжысёрам Георгіем Несцерам ("Утаймаванне свавольніцы") і дырэктарам Людмілай Падбярозкінай ("Каханне пад вязамі"). Магчыма, творчыя амбіцыі аказаліся мацней за думкі пра будучае свайго тэатра. Бо ў рэпертуарным плане, з якім я пазнаёмілася невыпадкова, ёсць шмат цікавых п'ес. Ва ўсякім разе, не настолькі "згвалтаваных" тэатрамі ўсіх краін і народаў, як творы Шэкспіра і О'Ніла. Можа варта было звярнуцца гастралёрам-бабруйчанам да сталічных жыхароў праз М.Чарота або М.Гарэцкага, якія таксама значацца ў рэпертуары і якія з'яўляюцца не меншым гонарам беларусаў, чым Шэкспір усіх зямлян.

Увогуле, тэатры перажываюць сёння, магчыма, самыя складаныя свае часы, калі агульная беднасць краіны ў першую чаргу адбіваецца на культуры. Правінцыяльнай асабліва. Аднак як бы там ні было, а падаткаплацельшчыкамі ўсё роўна застаёмся мы з вамі, гледачы. І хочацца, каб у тэатры было на што паглядзець.

ЮБІЛЕІ

# "Мая пявучая маці – Беларусь..."

*Пра сваю краіну–Бацькаўшчыну мог і мае права сказаць так шчыры беларус, свядомы патрыёт і годны, адданы ёй сын. Гэта словы беларускага паэта, знакамітага песняра-песенніка Авяр'яна Дзеружынскага, якому ў цудоўныя чэрвеньскія дні спаўняецца семдзесят пяць гадоў.*

Узрост паважаны і шаноўны!.. І спявае душа, няўрымслівае сэрца не просіць спакою. Памятаю добра Авяр'яна ў самым росквіце маладосці, пад час працы ў рэдакцыі "Чырвонай змены", калі ён па выкліку тагачаснага рэдактара Івана Матыля прыехаў з эвакуацыі, з Яраслаўля ў толькі што вызвалены Мінск і ўзначаліў аддзел рабочай моладзі. Авяр'ян быў ужо вопытны і пладавіты журналіст, бо ў яго за плячамі — Магілёўскі газетны тэхнікум і Мінскі інстытут журналістыкі, які паспяхова быў скончаны ў 1941 годзе. Авяр'яну Дзеружынскаму перад самай вайной давялося крыху папрацаваць у баранавіцкай "Сялянскай газеце". А ў вайну — чатыры гады ў тыле, у рэдакцыях газет Сібіры і Расіі.

Між чырваназменаўцаў Авяр'ян слыў таварыскасцю, "душой нарасхрыст", быў дасціпны апавядальнік і вясёлы жартаўнік. Там, дзе з'яўляўся Авяр'ян, заўсёды ўзнікаў добры настрой, усталёўвалася вясёлая атмасфера і своеасаблівы песенны настрой.

Песня — яго стыхія, яго любоў і радасць, нязменны спадарожнік творчага ўздыму і натхнення.

Сам Авяр'ян прызнаецца, што з маленства палюбіў песні, якіх багата ведалі ў роднай вёсцы Хляўно, на Кармяншчыне, і ён, малеча-падшыванец, быў у гурце хлопцаў і дзяўчат, якія збіраліся ранняй вясной на пагорку, над Сожам, дзе снег раставаў раней, дзе прыгравала ласкавае сонейка і ладзілі гульні, спявалі песні-вяснянкі.

Мы з Авяр'янам працавалі ў "Чырвонцы" разам каля пяці гадоў. І я не памятаю, каб ён калі расказваў пра сваё захапленне паэзіяй. Рэдакцыйныя будні забіралі ўвесь час.

Не было такога, каб Авяр'ян скардзіўся на цяжкасці, у яго бадзёрасці і аптымізму хапала на траіх. Толькі намякні, бывала, Авяр'яну пра песню, і ён будзе спяваць гадзінамі, без стомы, з натхненнем.

Ды як выявілася, Авяр'ян пісаў вершы яшчэ ў школьныя гады і змяшчаў іх у насценнай газеце, а першы свой вершаваны радок пабачыў у райгазеце "Калгаснік Кармяншчыны". Ад першага вопыту да кніжкі быў нялёгкі шлях - аж дзесяць гадоў. Першы зборнік "Песні маладосці" пабачыў свет у 1959 годзе. Кніжку прачытаў Пятро Глебка і сказаў: "Я напісаў табе рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз".

З 1964 года А.Дзеружынскі — член Саюза пісьменнікаў. У яго выходзяць: кніга паэзіі для дарослых "Калінавы цвет" (1961); для дзяцей — "Цуды ёсць на свеце" (1950), "Дзе жыве зіма" (1962), "Карагод" (1963), "Ляцелі дзве птушкі" (1964).

З гэтага часу пачалася актыўная і ўпартая літаратурная праца. Завязваецца шчырая і плённая дружба з кампазітарамі. Першым для музычнай грамадскасці А.Дзеружынскага "адкрыў" кампазітар Пётр Падкавыраў — ён напісаў музыку на верш "Песня аб міры". Кампазітар Іван Кузняцоў паклаў на музыку верш "Песня аб Мінску". Песня палюбілася, стала шырока вядомай. Удалы лёс і ў песні "Мінскі вальс", якую стварыў тады малады кампазітар Міхаіл Шумілін.

Зацікавіліся паэзіяй А.Дзеружынскага беларускія кампазітары: М.Чуркін, Я.Цікоцкі, М.Аладаў, У.Алоўнікаў, Д. Камінскі, Г.Вагнер, Я.Глебаў, Ю.Семяняка, Д.Смольскі, К.Цесакоў, І.Мацін і іншыя.

Песні "Мяцеліца" і "Сабірайся ў госці, мой дзядок" увайшлі ў "Анталогію беларускай народнай песні", выдадзеную выдавецтвам "Беларусь".

Авяр'ян Дзеружынскі добра і плённа працуе ў жанры дзіцячай паэзіі. Пісаць для дзяцей — і лёгка, і цяжка. Усім вядомае выслоўе, што для дзяцей трэба пісаць так, як і для дарослых, але цікавей і лепш. У А.Дзеружынскага цэлая бібліятэка дзіцячых кніг. Апрача згаданых тут, у беларускіх выдавецтвах выйшлі зборнікі: "Яе завуць Каця", "Кую-кую ножку", "Смешкі і пацешкі", "Добры ветрык", "Чабарок", "Ластаўка", "Бегунок", "Каласок", "Конікі-будаўнікі", "Цягнік-працаўнік", "Вяселікі. Выбранае", "Добрае сэрца", "Касмічны агарод", "Бярозавы вецер" і іншыя.

Вядома, не ўсе яны роўныя. Ёсць выдатныя іскрыстыя вершы, ёсць добрыя, ёсць і прахадныя, але ўсе сагрэты цеплынёю зачараванага сэрца творцы, пазначаны досціпам і мудрасцю думкі, вобразнасцю, трапнасцю і зайздроснай прастатою, якой можа пахваліцца не кожны, хто піша для дзяцей.

— Дзяцей трэба не толькі ўмець любіць, але і добра ведаць, — дзеліцца сваім вопытам бацькі і дзядулі Авяр'ян Сафонавіч. — У мяне сваіх дзяцей чацвёра: дзве дачкі і два сыны. Яны — мой жывы творчы матэрыял, — жартуе ён. І дадае ўжо сур'ёзна:

— З дзецьмі трэба быць тактоўным і справядлівым, лічыцца з іх меркаваннямі і схільнасцямі. Галоўнае — падтрымліваць у іх самастойнасць і паважаць у дзіцяці асобу...

...Семдзесят пяць... Ці не стамілася рука, ці не пераматмілася сэрца і не ахалодала душа ад выпрабаванняў і буравею жыцця?..

— Не! — упэўнена сцвярджае мой даўні і добры сябар, божай іскраю паэт. — На чысты ліст паперы кладуцца новыя ўдумліва-спелыя радкі. Паэт працуе. Паэт у дарозе. Пажадаем яму творчага даўгалецця і шчодрага плёну.

"Мая песня ў народзе хоць адна прарасце...

Мяне ж нарадзіла мая пявучая маці-Беларусь!.."

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

ПРЫВАТНАЯ СЯДЗІБА




*"У продажы рэдка можна сустрэць фасолю. Таму вырашыў сам вырошчваць яе на дачным участку, але не хапае ведаў. Раскажыце, калі ласка, што, як і калі неабходна рабіць, каб атрымаць нядрэнны ўраджай.*

**Л.ГРЫБНІЦА, г.Орша."**

Шкада, але апошнім часам агароднікі мала вырошчваюць фасолі на прысядзібных участках. Пры добрым доглядзе і агратэхніцы яна дае высокія ўраджаі. З кожнага квадратнага метра можна сабраць да 500–600 грамаў бабоў фасолі. Для гэтага глебу неабходна ўгноіць (пажадана пад зіму): 5–6 кілаграмаў гною ці кампосту, а вясной пры перакопцы яшчэ 20 грамаў аміячнай салетры, 30–40 грамаў суперфасфату і 15–20 грамаў хлорыстага калію ці 60–65 грамаў нітрафоскі на квадратны метр. Да пасеву трэба рыхтавацца загадзя, адабраць буйное, добра выспеўшае насенне і прагрэць яго на працягу 5–6 дзён на сонцы, каб у ім з'явілася палявая вільгаць і энергія прарастання. Пры надыходзе цёплага ўстойлівага надвор'я (тэмпература на глыбіні закладвання насення 10–12 градусаў) фасоль высяваюць на падрыхтаваныя грады шырынёю міжраддзяў 20–25 сантыметраў і прысыпаюць на глыбіню 4–5 сантыметраў, а паміж раслінамі павінна быць 8–10 сантыметраў. Фасолю можна вырошчваць і квадратна-гнездавым спосабам (па 3–4 расліны ў гняздзе) з плошчай забеспячэння 25x25 сантыметраў.

Выкопваць фасолю пачынаюць, калі на раслінах выспела не менш чым 70–80 працэнтаў бабоў. Лісце ў куставых сартоў звычайна ападае да гэтага часу. Нельга дапускаць перастойванне, асабліва ў сухое гарачае надвор'е, бо пры гэтым стручкі трэскаюцца і насенне высыпаецца. Тэрміны ўборкі вызначаюць па зацвярдзенню насення і высыханню бабоў. Колер бабоў не заўсёды можа быць надзейнай прыкметай, бо ў воскавых сартоў і на ранніх стадыях наліву бабы саламяна-жоўтага колеру, а ў сартоў зялёнанасенных бабы захоўваюць зялёны колер і пры выспяванні.

*"Купіць гною нідзе не магу. На адных мінеральных угнаеннях добрага ўраджаю не вырасце. Што ж рабіць?*

**А.ЗВАНКОВА, г.Баранавічы."**

Вельмі часта мы не зважаем на тое, што вакол нас ёсць шмат матэрыялу, з якога можна прыгатаваць кампост. Спальваем і вывозім на звалку прыгодныя для кампаставання адходы, якія можнаператварыць у карысную арганіку. Ёсць два тыпы такой сыравіны.

Першы. Матэрыялы, якія хутка гніюць: бацвінне бульбы і агародніны, лісце дрэўных раслін, салома злакаў, пустазелле, харчовыя адходы, папера, водарасці, мхі, лішайнікі, грыбы, гной ад дробнай рагатай жывёлы, трусоў, свіней, птушкі, фекаліі, глей, дарожны пыл ці гразь і многае іншае. У перамешаным і перагнілым стане яны даюць большую карысць.

Другі. Матэрыялы, якія гніюць марудна: пілавінне, стружка, трэскі, кара, сцябліны асаковых раслін, рэшткі прадзільных культур, мякіна злакавых і бабовых раслін, балотныя купіны, дзярніна, воўна пасля вырабу скур, рыззё, картон і да таго падобнае, што можа перагніць і даць угнаенне.

Любую сыравіну для кампаставання ачышчаюць ад камення, цэглы, жалеза, шкла, гумы, кавалкаў шлаку, шчэбню, галькі, дроту, палачак, інакш засмечваецца глеба і лёгка можна параніць руку, затупіць інвентар пры рабоце. Шкодна гэта і для каранёў. Асабліва шкодныя нафтапрадукты, рэшткі ядавітых матэрыялаў, карбіды, цынкавыя адходы, солі, шчолачы, кіслоты і іншае. Пакідаць іх у садзе нельга. Іх вывозяць на звалку, дзе парашкі і вадкасці закопваюць, цвёрдыя кавалкі выкарыстоўваюць для ўпарадкавання дарогі, металалом і гуму здаюць на ўтыль. Аўтапакрышкі выкарыстоўваюць на паваротах дарог, для насыпных клумбаў. Для кампаставання адводзяць зацененае месца, куды не трапляюць грунтовыя і дажджавыя воды, далей ад студні і пешаходных дарожак. Непрыемных пахаў ад кампосту не бывае, але ў кучах ён мае непрыемны выгляд. Болей за два метры вышыні кампоставыя кучы не робяць. Іх абсаджваюць гарбузамі. Калі зрабіць піраміду для кампосту з дапамогай дошак, то на яе прыступкі насыпаюць добрую глебу і сеюць агуркі, патысоны, кабачкі, кветкі, саджаюць памідоры, суніцы і іншыя расліны.

Можна зрабіць плоскую кампоставую кучу ў выглядзе клумбы. Зверху насыпаюць глебу і саджаюць кветкі. Атрымліваецца добры кампост і прыгожы кветнік.

Матэрыялы для кампосту закладваюць як слаёны пірог. Спачатку робяць падсцілку з дробна насечаных галінак, суччаў, хворасту, трэсак, кары і іншых матэрыялаў, якія доўга гніюць, слоем да 25 см, дыяметрам да 3 м. Затым да 50 см укладваюць пласт матэрыялаў, якія хутка гніюць. Усё гэта паліваюць з лейкі вадой, пасыпаюць мінеральнымі ўгнаеннямі (палавіна вядра). Замест іх можна скарыстаць вядро пячнога попелу. Так кладуць некалькі пластоў. Вельмі добра паліваць кучы ці ямы з кампостам гнойнай жыжкай: 2–3 вядры раз у месяц. Раз у тыдзень, асабліва ў сухое надвор'е, неабходна раўнамерна паліць кампост з усіх бакоў вадой.

Такі "пірог" дастаткова прыбіць віламі і лапатай. Галоўнае, каб паветра добра праходзіла ўнутр кучы ці ямы, для перагнівання арганікі. Паветра, вільгаць, цяпло, кампаненты, укладка іх – асноўныя ўмовы для паспяховага атрымання кампосту. Час, перакопка, ачыстка – дадатковыя ўмовы для яго якасці. Калі кампост заклалі ранняй вясной, то восенню ён амаль гатовы для ўгнаення глебы. У кожную разору даверху насыпаюць кампост і перакопваюць, каб ён быў пад глебай. Да вясны ён яшчэ лепш перапрэе. Такога ўгнаення хапае на 2–3 гады. Калі ўнесці чысты гной ад коней ці кароў у разоры пры перакопцы, то яна добра ўгнойваецца на 7–9 гадоў. Таму ўгнойванне глебы неабходна рэгуляваць.

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

## Правінцыяльнае жыццё

... А яшчэ кажуць, што нельга верыць прадчуванням. Зрання я была падрыхтавана ўжо да самага горшага, нейкім чынам звязанага ці то са мной, ці то з роднымі. І, збіраючыся ў школу, нават не здагадвалася, што бяда чакае там.

Аксана, мая аднакласніца, не дала нават сесці за парту, "перахапіўшы" адразу ля дзвярэй.

— Нашага Ігара ўчора "хуткая" забрала! Ён у рэанімацыі. Таблеткамі атруціўся!

Магчыма, гэта гучыць смешна, але я неяк адразу падумала, што гэта здарылася па прычыне няшчаснага кахання. Пачаўся ўрок. Усё было як заўсёды: настаўнік, які імкнуўся нешта нам давесці, адсутныя погляды аднакласнікаў. Незвычайным здавалася адно — пустое месца Ігара.

Вучыўся ён абы-як. Адсядзеўшы належныя гадзіны, спяшаўся да нешматлікіх сяброў, якія, між тым, былі за яго старэйшыя. Быў ціхім, ненадакучлівым, а ў класе кожны займаўся толькі сваёй асобай. Дні ішлі, а мы так і не знаходзілі тлумачэння трагедыі.

Неяк зайшла класная і з горыччу сказала:

— Наведалі б сябра. Яму ж зараз вельмі няпроста.

Клас маўчаў. У кожнага раптам з'явіліся неадкладныя справы: маўляў, даруй, Ігар, наведаем іншым разам.

...Калі я адчыніла дзверы бальнічнай палаты, то ў першы момант нават сумелася. Аднакласнік моцна асунуўся, схуднеў і нагадваў хутчэй немаўля. Зірнуўшы на мяне, ён прыязна ўсміхнуўся і раптам... па твары папаўзлі слёзы.

— Гэта я так,— дзеля апраўдання мовіў Ігар.— Не звяртай увагі.

І нечакана прапанаваў:

— Давай пагаворым...

Тое, што распавёў мой аднакласнік, не проста кранула. Магчыма, упершыню я асэнсавала жорсткасць жыцця. Ігару, як малодшаму ў сям'і, больш даставалася бацькоўскай пяшчоты. А лепшым сябрам быў старэйшы брат Дзіма. Дзякуючы яго аўтарытэту, Ігар ужо ў дзесяць гадоў адчуў смак цыгарэт, а пазней далучыўся да анашы. Бавячыся "траўкай", хлопец, паводле яго слоў, адчуваў, што жыццё можа быць больш прывабным і каляровым, а людзі — шчырымі і роднымі. Спынялася дзейнасць наркотыку і ўсё станавілася інакшым, як і ён сам, самотным і абыякавым. Пазней, з дапамогай старэйшага брата, Ігар пазнаёміўся з "калёсамі". Па нявопытнасці перабраў і сам жа выклікаў "хуткую".

... Яго шэра-зялёныя вочы прасілі аб спачуванні. Але што я магла сказаць?

На вуліцы роднай правінцыі невядома куды спяшаліся людзі. Неба нібыта ціснула абыякавамёртвай прасторай. Няхай так — толькі няўжо можна свядома пазбавіць сябе рэальнага жыцця?

... А нядаўна вечарам сустрэла яшчэ аднаго аднакласніка, страшэнна п'янага, які "зухарыўся" сваім станам. З яго ўсе пасмейваюцца, але таксама застаюцца абыякавымі. "Маладое жыццё" правінцыялаў працягваецца...

**Наталля ФЯДОТАВА, г.Навагрудак, СШ № 4.**




## "Бязрукія" нашчадкі

Не так даўно наведаў я глухую вёску на сваім родным Палессі. Гаспадыня, у якой спыніўся на начлег, была тутэйшай настаўніцай. Разам з мужам, таксама настаўнікам, пражыла ў вёсцы ўсё жыццё і нават вопраткай мала чым адрознівалася ад вяскоўцаў. А вось яе дачка... Вопратка, паводзіны, мова — усё гаварыла пра "гарадское" выхаванне. І калі маці прынесла і паклала на кухні засечаную на вячэру куру, каб яе абскубці, дзяўчына акуратна, неяк грэбліва, торкнула завостраным і нафарбаваным пазногцем у нежывую птушку і паціснула плячыма: "А як гэта робіцца?" Потым пачала выскубваць па пярынцы. І тут не вытрымала, пазіраючы на такое, бабулька, схапіла курыцу, абліла кіпенем і хутка, у адзін момант, абскубла. І маці, і бабулька, было відаць, не заахвочвалі працу дзяўчыны па гаспадарцы. Настаўніца з горыччу скардзілася: "Паглядзіце, каго з мяне зрабіла гэтая праклятая работа! Няхай хоць дачка з прыгожымі рукамі паходзіць". Але працаваць дзяўчыне ўсё ж давялося — у суседняй вёсцы. Пасля заканчэння педінстытута месца ў горадзе ёй не знайшлося. Клапатлівая маці кожны вечар хадзіла яе сустракаць за некалькі кіламетраў, праклінаючы неўладкаванае жыццё. І на самай справе — у той вёсцы не было дзе адрамантаваць абутак, памыць сукенку. З-за кожнай такой дробязі тутэйшыя жыхары ездзілі і ездзяць у Мазыр. І спяшаюцца хоць там уладкаваць сваіх дзяцей. Вясковыя мамы і таты не вельмі імкнуцца прывучыць сваіх малых нават да самай простай гаспадарчай працы. Пакуль яны яшчэ падрастаюць — не давяраюць падаіць тую ж карову. І ўсё часцей папракаюць школу — не навучылі, маўляў, там працаваць. А школа, тым больш у вёсцы, не прыстасавана сёння "выкладаць" навыкі сялянскай руплівасці. Гэта раней яшчэ былі абавязковымі ўрокі дамаводства, прафарыентацыі. Цяпер і іх зрабілі "вольнымі". Галоўнае — каб дзеці засвоілі закон Ома, а запрэгчы каня ці змайстраваць граблі — гэта ўжо занятак неабавязковы. Так яно і ідзе з года ў год — пакуль наверсе вырашаюць глабальныя праблемы пераўтварэння вёскі, у той самай вёсцы зводзяцца майстры сялянскай справы. Цяпер дзецям знайшлі новы занятак: расшукваць па дварах ступы, жорны, калаўроты, лапці — ствараюць музеі народных рамёстваў, цэнтры так званай дзіцячай творчасці. Толькі зноў жа вучыць школьнікаў працаваць сваімі рукамі няма каму, бо звычайнага школьнага настаўніка працы ў вёску нічым не заманіш. Хіба можна лічыць разавую дапамогу на"сотках" ці на сенажаці сапраўднымі працоўнымі навыкамі? Выхаваны такім чынам чалавек можа ўсё жыццё капаць для дрэў ямы, але сам сад не выгадуе. Я, напрыклад, не адзін раз пытаўся ў вясковых хлапчукоў, якія дрэвы растуць у іх пад вокнамі. "Яблыкі, грушы, слівы", — адказваюць. А пра гатункі не маюць ніякага паняцця. Мы ж усё гаворым пра самастойную работу на зямлі, пра фермерства, пра павышэнне эфектыўнасці і ўрадлівасці вясковых палеткаў. Як падумаеш, што нас чакае наперадзе, — плакаць хочацца па сучаснай беларускай вёсцы. Яна, магчыма, яшчэ падорыць нам сваіх вучоных і паэтаў. А вось моцнага гаспадара, дасведчанага, адукаванага — не ведаю. Дай Бог, каб я памыліўся.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

## Не кранайцеся душы!

Прачытала ў "Чырвонай змене" артыкул Міколы Капыловіча "Не падзялілі...". Памятаеце? Маленькае дзіця гіне з-за амбіцый сваёй маці. Што скажаш? Хлопчыка ўжо няма. Але не дае спакою думка: колькі яшчэ ахвяр рыхтуюць сабе чалавечыя злосць, хамства...

Не хачу ніякай кары гэтай жанчыне, што прынесла на алтар нянавісці да былога мужа жыццё дзіцяці. Яе пакарала ўжо гора. Я — пра іншае. Усё, што даводзіцца чытаць у газетах, бачыць навокал, проста крычыць аб тым, якой моцнай зброяй зрабілася ў грамадстве знявага. Не толькі фізічная, але перш за ўсё маральная. Калі гвалтуюць, забіваюць — тут часта маюць месца псіхічнае захворванне або своекарыслівы намер. Але маральную знявагу робяць людзі, што лічацца ўвогуле нармальнымі.

Колькі бяды прыносіць нашае імкненне панаваць! Так, менавіта панаваць! Над тым, хто менш моцны, менш сацыяльна абаронены. Пакуль справа не дойдзе да крыміналу. Пакуль таму, каго зняважылі, не застанецца толькі адно — уцячы ад крыўдзіцеляў як мага далей. А калі ў чалавека з'явіцца жаданне адпомсціць за былыя крыўды? Вось і замыкаецца кола: знявага — крыўда— помста. Не толькі на словах, але і на справе, як адбылося ў выпадку з "непадзеленым" хлопчыкам.

Інстынкт уласніка, гаспадара губіць адносіны паміж людзьмі. "Гэта — маё! Я гэтак хачу!" вырашае ўсе маральныя праблемы. Але чалавек — не рэч і не лялька. Бацька любіць сына і жадае яму шчасця. Няхай ён не кахае былую жонку, але быць "былым бацькам" не павінен. Асабліва тады, калі гэтага жадае дзіця. У дадзеным выпадку прайгралі ўсе: хлопчык не "падзяліўся". Ён памёр, не дастаўшыся нікому.

Так адбываецца заўсёды, калі хтосьці іншы вырашае за нас, што нам рабіць у жыцці. Дзе працаваць, дзе вучыцца, каго кахаць, з кім сябраваць, чым цікавіцца і які мець светапогляд.

Памятаю, у нейкім папулярным фільме жонка сказала мужу: "Ты сам робіш памылкі. Не вучы сына. Няхай ён вучыцца на сваіх!" Вельмі мудрая пазіцыя. Бо неабходнасць усё вырашыць самастойна стымулюе розум, які будзе лепш за ўсе знешнія засцярогі аберагаць ад памылак. Нельга кранацца душы, дыктаваць, што ёй рабіць. Бо кожны з нас так ці інакш можа стаць ахвярай маральнага згвалтавання.

**Ларыса ШУВАЛАВА.**




Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА**

| Кошт | падпіскі | ____ рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

Нагадваем, што падпіска на "Чырвоную змену" на III квартал працягваецца да 15 чэрвеня.

**Кошт — 5400 руб., індэкс 63129.**

